# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 49 (1647) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 6 СНЕЖНЯ 1987 г. ЦАНА 12 зл.

## 70 МЫ З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

### БУДЗЁНАВЕЦ

Васіль Літвінчук нарадзіўся ў 1898 г. у Беластоку. Пасля заканчэння настаўніцкай семінарыі ў 1917 г. адразу ўключыўся ў рэвалюцыйную дзейнасць, прымаў удзел ва ўстанаўленні Савецкай улады на Віцебшчыне. У студзені 1918 г. яго накіравалі арганізаваць камсамол у Екацерынаслаў (сённяшні Днепрапятроўск) на Украіне. У сакавіку 1918 г. В. Літвінчук дабраволыцам уступіў у Чырвоную Гвардыю, быў кіраўніком па культурна-асветных справах у спецыяльнай брыгадзе пры штабе Першай коннай арміі С. Будзённага.

Вярнуўшыся на Беласточчыну, В. Літвінчук настаўнічаў. За дзейнасць у Беларускай сялянска-рабочай грамадзе і Таварыстве беларускай школы



яго праследавалі, пазбаўлялі работы, саджалі ў турму. Пасля вызвалення ён адразу ўступіў у Польску рабочую партыю, актыўна і самаахвярна працаваў пры адбудове школьніцтва на Беласточчыне. Быў адным з першых дырэктараў Гайнаўскай беларускай гімназіі (1945-1948 г.г.). Потым (1949-1953 г.г.) працаваў у партыйных органах. Затым быў кіраўніком клуба міжнароднай прэсы і кнігі ў Беластоку, многа зрабіў у папулярызаванні савецкай прэсы і кнігі на Беласточчыне.

В. Літвінчук — адзін з заснавальнікаў і адданых дзеячоў Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Узнагароджаны ордэнамі і медалямі Народнай Польшчы, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР прызнаў яму Ордэн Чырвонай Зоркі.

**Б. Нікіцюк**

## ЯНКА ЗЕНЮК — ЗАСЛУЖАНЫ НАСТАЎНІК ПНР

„Заслужаны настаўнік Польскай Народнай Рэспублікі" — гэта самая высокая ўзнагарода настаўніцкай прафесіі.

Пяці настаўнікам з усяе Беласточчыны ў гэтым годзе пастановай Рады Дзяржавы ПНР была прызнана такая ўзнагарода. Адным з узнагароджаных з'яўляецца Янка Зенюк, актыўны беларускі дзеяч, намеснік старшыні Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства, былы шматгадовы сакратар ГП БГКТ.

Янка Зенюк — чалавек новага, нашага народнага і сацыялістычнага складу. Мае вучоную ступень доктара педагагічных навук і ўсю сваю высокую адукацыю ён прайшоў дзякуючы магчымасці, якую стварыла народная ўлада. Выхадзец з вёскі (Рэпіска на Гайнаўшчыне) ён і сваю першую працу маладога настаўніка пачаў у вёсцы Рыбакі на Гайнаўшчыне, а было гэта ў 1951 г.

У магістэрскай сваёй дысертацыі заняўся роляй рабочых маладзёжных універсітэтаў у распаўсюджванні асветы сярод рабочай моладзі. А былі гэта гады, калі рабочыя універсітэты адыгрывалі вялікую асветніцкую ролю сярод рабочых новых фабрык, куды прыйшлі яны з вёсак.

Доктарская дысертацыя Я. Зенюка зноў жа аб тым: аб функцыі і ролі школьных бібліятэк у самаадукацыі настаўнікаў, працуючых на вёсцы. Праца была ацэнена як піянерская.

Сёння д-р Янка Зенюк з'яўляецца дырэктарам Ваяводскай педагагічнай бібліятэкі і ў далейшым прымае самы актыўны ўдзел у палітычным, асветным і культурным жыцці рэгіёна і ў жыцці беларускай нацыянальнай меншасці.

Ён — намеснік старшыні Ваяводскай рады ПРОН, старшыня Краёвай секцыі настаўнікаў-бібліятэкараў, член Краёнай рады педагагічнага прагрэсу — у склад яе Я. Зенюк быў уведзены міністрам асветы ў гэтым годзе, паколькі сёння вопытныя педагогі асабліва патрэбны ў сувязі з неабходнасцю сапраўды рацыянальнай рэформы асветы ў краіне.

З гэтай жа праблематыкай звязана і праца д-ра Я. Зенюка са студэнтамі на кафедры педагогікі філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, дзе ён з'яўляецца старшым выкладчыкам.

„Ніва" сардэчна віншуе і жадае далейшых поспехаў.

**(вв)**

Фота М. Алькоўскага

## З НАСТАЎНІКАМІ ЗА РЭДАКЦЫЙНЫМ СТАЛОМ

У рэдакцыі „Нівы" адбыўся сход, на якім стаяла тэма беларускага школьніцтва як асновы захавання нацыянальнасці.

Былі запрошаны на яго настаўнікі-практыкі — выдатныя педагогі. Удзел прынялі: педагог-метадыст беларускай мовы Тамара Русачык з Бельска (настаўніца ў школе № 3), Галена Тапалянская — з 30-гадовым стажам у навучанні беларускай мовы настаўніца ў школе ў Трасцянцы, Анатоль Мартыновіч — гмінны школьны інспектар у Орлі, шматгадовы дырэктар тамашняй школы, заслужаны арганізатар беларускага школьніцтва, Ян Добаш — настаўнік беларускай мовы і дырэктар школы ў Пашкоўшчыне.

Ад беластоцкай школьнай кураторыі прысутнічаў візітатар Сцяпан Крэнтоўскі, які каардынуе ў Кураторыі справы беларускага школьніцтва.

Уводнае слова мелі Віталій Луба — сакратар ГП БГКТ і Вера Валкавыцкая — журналіст. Віталій Луба прадставіў актуальныя статыстычныя дадзеныя навучання беларускай мовы, сцвярджаючы на іх аснове, што як колькасць вучняў беларускай мовы, так і школ, дзе гэтая мова навучаецца, за апошнія гады ўстабілізавалася. За апошні год навучанне беларускай мовы распачалося ў некалькіх новых школах. Некаторае зніжэнне ліку вучняў, якія вывучаюць беларускую мову, можа мець дэмаграфічныя прычыны.

В. Валкавыцкая прадставіла крытычныя заўвагі наконт навучання беларускай мовы ў школах: сітуацыя беларускай мовы ў школах, звязаная з добраахвотнасцю яе навучання (пісанне бацькамі пасведчанняў на згоду, месца беларускіх урокаў у школьных расписаннях — пераважна гэта апошні ўрок у вельмі позняя гадзіны), перакіданне дырэкцыяй справы навучання беларускай мовы цалкам на настаўнікаў (калі хочаш вучыць — знайдзі ахвотных, залу, гадзіну і гэтак далей), незразумелае ў многіх выпадках неспрыянне навучанню беларускай мовы з боку дырэкцыі школы, ліквідацыя малых школ і перавозка вучняў у гмінныя — пры гэтым многія вучні ў вышэй арганізаванай школе ўжо мовы беларускай не выву-

(Працяг на стар. 4)

НА МЯЖЫ

# АБ АНАНІМШЧЫКУ

Быў час у нашым мінулым, калі ананімы адыгрывалі ў жыцці велізарную ролю. Бяда заключалася ў тым, што ананімы вельмі сур'ёзна трактаваліся ўладамі і таму ананімная творчасць развівалася вельмі буйна. І не аднаму чалавеку ананімшчыкі зламалі кар'еру, знялі яго з работы, разбілі сям'ю, змарнавалі жыццё. Чым кіраваліся ўлады, разглядаючы ананімы, а не кідаючы іх у кошык са смеццем? Кіраваліся ідэяй: няма дыму без агню. Калі, маўляў, на чалавека пішуць, значыць, у гэтага чалавека ёсць нейкая віна. Зразумела, што ананімка можа споўніць і станоўчую ролю. Бывае так, што кліка апаноўвае поўнасцю жыццё ў нейкай установе і яна гатова знішчыць кожнага сумленнага чалавека, які ёй супрацьстаўляецца. Што ў такой сітуацыі можа зрабіць такі чалавек? Вельмі часта „хапаецца ён за брытву" і піша ананімку. Такая ананімка спаўняе станоўчую ролю. Я аднак асабіста супроць ананімнай дзейнасці, бо ў аграмаднай большасці выпадкаў карыстаюцца ёю жулікі, людзі без тавару, завіснікі чалавеканенавіснікі, якія стараюцца знішчаць таго, каго яны не любяць і каму зайздросцяць.

Сёння аднак хачу вам, дарагія чытачы, расказаць аб выпадку, мабыць, вельмі рэдкім. Датычыць ён чалавека, які напісаў ананім на самога сябе. Здарылася гэта больш чым дваццаць гадоў таму назад, калі сакратаром Галоўнага праўлення БГКТ быў Уладзімір Юзвюк. Варта сказаць, што Юзвюк, хаця ўжо даўно но працуе прафесійна ў Таварыстве, да сёння дзейнічае ў ім вельмі актыўна, прыносячы істотную карысць усёй беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

Пераходжу да сутнасці справы. Аднаго разу я прыехаў у Беласток і зайшоў у Галоўнае праўленне да Юзвюка. Ён парыўся ў шуфлядзе і выцягнуў адтуль канверт. Прачытай, сказаў. Я ўзяў і прачытаў. Быў гэта ананім, накіраваны супроць аднаго з нашых вядомых дзеячоў. Аўтар лістка пісаў, што ўжо даўно пара заняцца гэтым страшным тыпам С. Тып С., дзе толькі можа, там выступае і супроць ідэалогіі Таварыства і супроць характару грамадскай сістэмы ў нашай краіне. Калі мы не возьмемся за тыпа С., дык ён напэўна яшчэ больш пашырыць свае злавесныя дзеянні.

Перадаю тут агульны, прыблізны змест ананімкі. Справа ў тым, што я, на жаль, не перапісаў яе зместу і не магу яго паўтарыць даслоўна.

— Ну, што з ім рабіць? — спытаў Юзвюк і паглядзеў у бок кошыка са смеццем.

— Адрасуй ананім туды, куды цяпер глядзіш, — параіў я Валодзю.

Так яно і сталася. Я вельмі хутка забыў аб здарэнні, аднак не прайшоў і месяц, а справа аджыла ў нечаканым варыянце. Калі я прыехаў у Беласток і сустрэўся з Юзвюком, той мне сказаў:

— Ведаю аўтара ананімкі, накіраванай супроць дзеяча С.

— А як жа ты яго адкрыў?

— Сам адкрыўся.

— Як жа гэта?

— Звычайна, сам прыйшоў і прызнаўся.

—Дык ты ў ніякім выпадку не гавары гэтага дзеячу С., бо зненавідзіць ананімшчыка да канца жыцця.

— Гаварыць не буду, бо аўтарам ананімкі ёсць дзеяч С.

— Як гэта?

— А вось так.

І тут Юзвюк расказаў, як прыйшоў да яго дзеяч С. Доўга гаварылі аб тым і гэтым. Урэшце ён спытаў, ці ў Таварыства не прыходзяць ананімы. Юзвюк сказаў, што не прыходзяць. Дзеяч спытаў, ці не прыйшоў ананім, накіраваны супроць яго. Юзвюк сказаў, што ніякіх ананімаў не было. Тады дзеяч кажа:

— Валодзька, прыйшоў да цябе ананім. Я ведаю, бо сам яго напісаў. І тут дзеяч С. расказаў дакладна змест ананімкі. Юзвюк, рад не рад, мусіў прызнацца, што ананімка супроць яго была ім атрымана, аднак вярнуць аўтару яе не можа, бо яго ананімка ўжо даўно ў адпадкова-смеццевым вадавароце гісторыі.

Калі сёння вяртаюся да гэтай справы, дык цікавіць мяне ў ёй толькі адзін аспект. Пытаю сам сябе, ці можа чалавек напісаць ананімку на сябе, не напісаўшы раней ананімак, накіраваных супроць іншых? Прызнаюся, што не ведаю.

**Алесь Барскі**

З рэпарцёрскіх ЗАПІСАК

# СЯРОД ГУРТКОЎЦАЎ

Была субота, 7 лістапада 1987 года. Цэлы свет адзначаў 70-ую гадавіну Вялікага Кастрычніка.

За вёскай Дакторцы, між лесам і берагам Нарвы, бушавала вялікае вогнішча. Вакол яго таўпіліся людзі. Гэта працаўнікі Ваяводскага саюза сельскагаспадарчых гурткоў сялян і сялянскіх арганізацый, якія з'ехаліся сюды з усіх куткоў Беласточчыны. Найперш яны на доўгіх ляшчынавых прутах смажылі ў агні загадзя падрыхтаваныя каўбаскі пад гукі гармоніка з нажнымі механі, на якім прыігрываў скочныя полькі і абэркі падстарэлы селянін з падлапскай вёскі. Пад вечар, калі ўжо зусім пацямнела, над прынараўскай далінай паняслася звонкая, вядомая і сэрцу мілая беларуская песня. Гэта спявалі харысты гайнаўскага ансамбля.

Так гуртkоўцы адзначалі гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі. Усё пачалося зранку. Эстафеты гуртkоўцаў з розных куткоў Беласточчыны найперш накіраваліся на могілкі і да помнікаў удзячнасці савецкім салдатам, каб вянкамі і букетамі кветак ушанаваць памяць тых, хто цаною свайго жыцця прынёс нам свабоду і спакойны быт. Кветкі ад гуртkоўцаў былі ўскладзены: у Бельску-Падляшскім на могілках савецкіх воінаў, ля помніка ў Танкелях каля Драгічына, дзе гітлераўцы замучылі і расстралялі некалькі дзесяткаў тысяч савецкіх ваеннапалонных, на могілках у Мілейчыцах, ля помніка ўдзячнасці ў Дубічах-Царкоўных, на могілках у Гайнаўцы, ля абеліска ў Нараўцы, на брацкіх магілах у Орлі, ля абеліска ў памяць забітага генерала Жолудзева і іншых савецкіх воінаў у вёсцы Плебанова, што пад Крынкамі, ля помніка ў Чорнай-Беластоцкай, на могілках у Саколцы, на магілах у Падазеранах каля Гарадка, на магіле старшага сяржанта Кунавіна, які пахаваны разам з іншымі чырвонаармейцамі ў вёсцы Гарасімовічы, што ў гміне Дуброва-Беластоцкая, і ў іншых месцах, дзе на вечнай варце міру і свабоды засталіся на нашай зямлі салдаты-вызваліцелі.

*

Галоўныя ўрачыстасці адбыліся аднак у Беластоку, на Новым Месце, дзе знаходзяцца брацкія магілы ваеннапалонных, памерлых ад голаду і зверскіх знутканняў у гітлераўскім лагеры, які існаваў у Беластоку.

На гэтую ўрачыстасць праўленне Ваяводскага саюза сельскагаспадарчых гурткоў сялян і сялянскіх арганізацый запрасіла шматлікіх гасцей, прадстаўнікоў кіруючых ваяводскіх устаноў. Сярод іх былі таксама госці з Савецкага Саюза: **Броніюс Войткавічыюс** — старшыня прэзідыума Літоўскага аддзела Таварыства савецка-польскай дружбы ў Вільнюсе, **Галіна Ёт-к'яла** — журналіст польскай газеты ў Вільнюсе, якая называецца „Чырвоны штандар", **Барыс Кварцоў** (з жонкай і ўнукам) — намеснік галоўнага рэдактара польскага выдання часопіса „Савецкі Саюз", працаўнікі з перасылачнай нафтаправадной станцыі ў Адамове, з іх шэфам **Віталісам Мігікулінным.** Такім чынам беластоцкія гуртkоўцы апынуліся ў ганаровай міжнароднай кампаніі. Урачыстую справу для ўскладання вянкоў ля помніка ў гонар савецкім воінам у Беластоку наладзілі салдаты Падляшскай часці войск унутранай абароны. Дапамагаў ім школьны духавы аркестр з меліярацыйнага тэхнікума.

*

Асноўны мітынг у гонар 70-ай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі гуртkоўцы наладзілі ў Лапах. Арганізаваў яго гурток Таварыства польска-савецкай дружбы, які даўным-даўно існуе ўжо і актыўна дзейнічае пры Ваяводскім саюзе сельскагаспадарчых гурткоў, сялян і сялянскіх арганізацый. Старшынёю гэтага гуртка ўжо шмат гадоў з'яўляецца інжынер Мікалай Андрэюк, які вышэйшую адукацыю атрымаў у Савецкім Саюзе.

Пашырэнню ідэй і прынцыпаў польска-савецкай дружбы ў гуртkоўскай арганізацыі прыдаецца шмат увагі. Гурткі ТПСД існуюць у многіх звеннях Ваяводскага саюза сельскагаспадарчых гурткоў, сялян і сялянскіх арганізацый. Галоўнае праўленне ТПСД, ацэньваючы актыўнасць гэтых гурткоў, уганаравала „Залатым знакам ТПСД" сельскагаспадарчы гурток у Канцавізне, што ў Суражскай гміне, і гурток вясковых гаспадынь з Арэшкава на Гайнаўшчыне. Апрача гэтага „Залаты знак ТПСД" быў прысвоены звыш 20-ці асобам, актывістам мясцовых гурткоў ТПСД. Для прыкладу назаву тут **Мікалая Антанюка, Яўгена Чарвацкага і Ніну Бяленю** з Бельска, **Анастасію Герман** з Арэшкава, **Уладзіміра Альховіка** з Гарадка, **Крысціну Ажахоўскую** з Літвінавіч, **Міхаіла Пясэцкага** з Гайнаўкі, **Любу Саковіч** з Юшкавага Груда, **Аляксея Семянюка** з Курашава...

*

Пасля так званай афіцыйнай часткі мітынгу зала кінатэатра ў Лапах запоўнілася песнямі. Пад гукі дзявочага шматлікага духавога аркестра з Лапскага агульнаадукацыйнага ліцэя спявалі і чыталі вершы іх сябры і сяброўкі, а затым выступіў беларускі хор з Гайнаўкі.

Гэта вельмі характэрная з'ява для адносін да спраў беларускай нацыянальнай меншасці з боку кіраўніцтва Ваяводскага саюза сельскагаспадарчых гурткоў, сялян і сялянскіх арганізацый. Вось гэтае шматмаштабнае святкаванне чарговых гадавін Кастрычніцкай рэвалюцыі пачалося чатыры гады таму назад мітынгам, наладжаным у Бельску. Затым падобныя мітынгі адбыліся ў Гайнаўцы і Саколцы. У гэтым годзе — у Лапах. І заўжды ў рэпертуары так званай мастацкай часткі прадбачваліся песні ў выкананні нашых беларускіх мастацкіх калектываў і заўжды на гэтыя ўрачыстасці запрашалі яны прадстаўніка „Нівы".

*

На гэтае асеннее святкаванне прыехалі яны пасля напружанай працы ў сялян і на сваіх супольных гаспадарках. Аляксандра Маслоўская, якая ў Ваяводскім саюзе сельскагаспадарчых гурткоў, сялян і сялянскіх арганізацый займаецца наладжваннем сельскагаспадарчай вытворчасці, паінфармавала мяне, што ў гэтым годзе спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў гаспадарылі супольна на 6800 гектарах дзяржаўнага фонду зямлі. Асабліва высокімі ўраджаямі вылучыліся гуртkоўцы з Вышкаў, Бранска, Шудзялава, Сідры, Янава і Гайнаўкі. Дзякуючы іх намаганням, дзяржаўныя запасы збожжа папоўніліся многімі дзесяткамі тон жыта, пшаніцы і аўса. Сем эскаэраў надалей займаюцца жывёлагадоўляй, у першую чаргу адкормам свіней. Гэтая справа добра наладжана ў Бельску, Гайнаўцы, Орлі, Нурцы, Вышках і Турасні Касцельнай.

Беручы агульна, гуртkоўцы пастараліся, каб не далажыць ані залатоўкі да сваёй сельскагаспадарчай вытворчасці. Самакіраванне і самафінансаванне — гэтыя асноўныя прынцыпы эканамічнай рэформы — прымяняюцца ў сельскагаспадарчых гуртках ужо шмат гадоў. Падлікі, праведзеныя за тры мінулыя кварталы гэтага года, паказваюць, што гуртkоўцы Беластоцкага ваяводства апынуліся

(Працяг на стар. 8)

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 342





## ЮСІФ КАРПЮК



*Нарадзіўся я 22 снежня 1933 г. у Машчоне Панскай Сямяцічкай гміны ў сялянскай сям'і. Тут і хадзіў у пачатковую школу. Праз зіму прайшоў тры класы і спыніў навуку. Трэба было памагаць бацькам у гаспадарцы. Потым адслужыў армію і пачаў працаваць столярам на машынна-трактарнай станцыі ў Сямяцічах. У тым жа часе ў 1968 г. закончыў вячэрнюю пачатковую школу для дарослых. Ад 1982 г. вяду шклярскую майстэрню ў Сямяцічах.*

### СВЯДОМАСЦЬ

Хацеў бы даць усім
хаця крышынку свядомасці,
сабранае ўласнымі рукамі
маёй скромнай непагаснай
думкі,
памагаць гаспадару Планеты
у падсяканні каранёў голада
і ў рассяванні
сытасці.

* * *

зямля мая каханая
хацеў бы я
хоць што небудзь табе зрабіць
заўжды стаяць на стражы
ля варот тваіх
дом твой прыстроіць
бестрывожным радасным
жыццём
абмыць твае нястомныя ногі
абмыць прыбруджаны твар
чыстаю вадою
з глыбіні возера
маёй несціханай думкі
каля твайго шляху
пасадзіць вербы тапалі ліпы
рассцілаць дыван колеру
зялёнага
а на прасторах тваіх
рассяваць дабрату
а ў слядах адціснутых
маімі ступнямі
пакінуць сябе ў незабыцці

зямля мая каханая
хацеў бы я

### МУЗЫКІ Ў ШУДЗЯЛАВЕ

Паслаўляюць музыкі ў Шудзялаве. Свабода тамака. Навалачы наехала жыць. У „белае танга" б'юць у морду, каму трэба. Здараецца — і ў модную „трасцу". Тады не так салідна. Мала часу. Без настрою.

Скачуць местачкоўцы. Крынчане. Ім і дастаецца ўкаплех. Бывае — і паненкам (дзягаю па лытках). Музыкантаў не чапаюць. Яны паследкі тут.

Рэня Пупянка патраціла прычоску. Газетаю нехта жыхнуў. — Так табе, а так! — крычала Пупіха на дачку. Кавалер гэта вазіў Рэню „ладаю". Дык і ўцякаў, газуючы. Уцёк бы, калі б не мацёра Вашаіхі. Разлегласся, падла, за мастком у калдобіне... Страху наеўся. Гэта не калецтва. Не тое, што Рэні.

Музыкі ў Шудзялаве, го-го! Слабаку не туды дарога. І запазычанцу. А яшчэ і той панясе „фанары" пад вачыма, у каго нарачоная без круцелеватасці грэшніцы.

Разаніна ж у Шудзялаве на Багача. Ага.

**Сакрат Яновіч**




### ЦЕСНА СЛОВАМ, ПРАСТОР ДУМКАМ

Сакрат Яновіч — гэта майстра кароткай літаратурнай формы. Доказам таго і „Эпізоды фронту", рэч апублікаваная на літаратурнай старонцы „Нівы" ад 4 кастрычніка г.г. Гэта пра вайну, убачаную вачыма дзіцяці. Як і кожны пісьменнік, Яновіч чэрпае матэрыял з уласных перажыванняў. Можна сказаць і так: які лёс пісьменніка, такая і творчасць яго. Творца, як расліна: такою будзе, на якой глебе вырасце.

Не толькі ў „Эпізодах фронту" кідаецца ў вочы вялікая ашчаднасць слова, ужыванне слоў абсалютна неабходных і аніводнага лішняга, без якога магло б абыйсціся апавяданне. Гэта вялікае мастацтва так пісаць! У такім апавяданні больш сказана пра вайну, чымсці ў прасторным рамане, дзе мноства надуманага, штучнага, або і несапраўднага. У „Эпізодах фронту" пах вайны, як трагічнасць і бессэнсоўнасць адначасна, смешнасць і жах! Як у жыцці, у якім усё пераплятаецца адразу. Нават той уласавец у нямецкім мундзіры, які гаворыць: „Уласаў прадаў цэлую Расею, а я хоць — тапор!" — таксама і трагічны, і камічны. І колькі ж бязвыйсця ў гэтага чалавека, якому бадай адна дарога — у пятлю!

Хто чытае прозу Сакрата Яновіча, той няхутка можа забыць пра прачытанае. Гэта так, як з кніжкамі Васіля Быкава. Цесна словам, прастор думкам.

**Мікалай Панфілюк**

**Віктар Швед**

### ХТО НАЙЛЕПШЫ МАЕ СЛЫХ

Настаўнік музыкі пытае
Другакласнікаў малых:
— Скажыце, дзеткі, хто з вас
мае
Найлепшы ў вашым класе
слых?

— Найлепшы мае слых
Сярожка. —
Сцвердзіў гурмою цэлы клас. —
Калі адказвае ля дошкі,
Ён чуе кожненькі падказ.

### МОЙ ТАТА ЛЫСЫ, ЯК КАЛЕНА

Двойку паставіўшы Кандрату,
Настаўнік кажа: — Сёння хіба,
Калі загляне ў дзённік тата,
Дык валасы ўсе станупь дыбам.

Кандрат азваўся праз хвіліну:
— Такой не будзе ў хаце сцэны.
Не ўздрыгане нат валасіна —
Мой тата лысы, як калена.

**Віктар Швед**



Выстаўка малюнкаў выдатнага беларускага мастака Міхася Карпука ў Беластоку выклікала жывое зацікаўленне і ў звычайных любіцеляў прыгожага і ў прафесіянальных мастакоў. На здымку Міхась Карпук (справа) у творчай спрэчцы са сваім сябрам па прафесіі, шырока вядомым у нас мастаком Лёнікам Тарасэвічам. Фота В. Гжэгорчыка.

**Юрка Баена**

### ПЕРШАЕ КАХАННЕ

Хоць многа хвілін пагасла
У забыцця пажарышчах,
Помню,
Быццам сёння было гэта,
Калі ўпушчаную кніжку
Дрыжачаю рукою
Паднаў я мімавольна
І цэлы ў полымі нясмеласці
Стаяў перад аблічам
Святасці найбольшай...

* * *

Адапхнуты табой,
я ў цішыню
без развітання адыходжу.

Няхай па мне
у акіяне шчасця
астанецца пустка.

Можа быць, яна
ў прылівах хмурнай хвалі
добрым напоўніцца ўспамінам?

* * *

Высокія клёны
З майго дзяцінства
Застылі ў задуменні,
Акамянелі ў соннай,
Звонкай, спеўнай
Цішыні вячэрняй.

Адляцелі...
Ў вырай адляцелі
Ластаўкі, што ў надхмар'і
Вочы ўсё ўзнімалі, —
Цяпер толькі ўжо зрэнкі
Звужваюцца ад стомы...

А кругагляд?
А кругагляд мой цэлы
Засланілі словы,
Словы, словы
Беласнежнай мовы...

### КАРОТКАЕ ПІСЬМО Ў ВЁСКУ

Купіўшы білет у адзін бок,
мы ўсё ўжо ўладзілі.

Жывем цяпер багата
ў кватэры М-5
(адны ў хаце!).

Дзеці ядуць бананы
і чытаюць кніжкі
пра касмітаў.

А нам тэлевізар
да позняй ночы,
пакуль гімн не зайграюць,
звініць як жаваранак.

Калярова ў нас, надзейна,
быццам на майскім лузе
ў светлы ранак.

### РОДНЫЯ ПЕСНІ

Жывуць на свеце людзі,
Якім хацелася не раз
Песні родныя жыўцом
Ў магілу пакласці.

Толькі песні заўжды
Уцякалі ім з рук
Каб прыўзнята ісці
З хаты ў хату.

**Юрка Баена**

## КАСТРЫЧНІК НА ДЗІЦЯЧЫХ МАЛЮНКАХ

70-я гадавіна Кастрычніцкай рэвалюцыі ажывіла гурткі ТППР у горадзе і гміне Бельск. Быў арганізаваны пластычны конкурс, прысвечаны юбілею. Ён праходзіў у дзвюх катэгорыях — для моладзі пачатковых школ і для моладзі сярэдніх школ. Удзельнікі прыслалі 132 малюнкі з 14 пачатковых і 7 школ звышпачатковых.

Конкурсная камісія выбрала і найвышэй ацаніла ў катэгорыі сярэдніх школ Артура Гаўрылюка з Беларускага ліцэя імя Тарашкевіча, Дароту Нікалаюк з Будаўнічай школы, Аню Федаровіч — з Эканамічнай школы ў Бельску.

У пачатковых школах, у групе класаў I-IV найлепшымі былі малюнкі Манікі Цар з Пачатковай школы ў Кнарыдах, Малгосі Катовіч — з Пачатковай школы № 4 у Бельску, Ані Гладкевіч з Пачатковай школы № 1 у Бельску. У групе класаў V-VIII найлепшымі былі малюнкі Адама Верамчука з Пачатковай школы ў Дубяжыне, Ані Явароўскай з Пачатковай школы № 2 у Бельску, Артура Паўліка з Пачатковай школы ў Храбалах.

Дзіцячыя малюнкі — плён конкурсу можна было глядзець на выстаўцы ў Бельскім доме культуры, якая працягвалася да канца лістапада.

**Андрэй Гаўрылюк**

**Весткі з Бельскай гміны**

## ВЯСКОВАЕ САМАЎПРАЎЛЕННЕ

Хаця многія вясковыя самаўпраўленні існуюць толькі на паперы, то ёсць і даволі актыўныя. Да такіх належыць вясковае самаўпраўленне ў Гацьках. У мінулым годзе яно мабілізавала сваіх аднавяскоўцаў на рамонт святліцы, а ў бягучым годзе — на рамонт вуліцы, па якой цяпер прыемна прайсціся. У грамадскай дзейнасці самаўпраўлення найбольшую ахвярнасць праяўляюць: солтыс Рыгор Радзіванюк, гмінны радны Яўген Дамброўскі і Іван Мусько. Усе жыхары задаволены, што і святліца і вуліца цяпер у належным стане.

## ГАСПАДАРОЎ УСЁ МЕНШ

Да адной з большых вёсак на Бельшчыне заліча́ліся Плюцічы. У пяцідзесятых гадах было там 220 дамоў і столькі ж сем'яў. З-за памылак у сельскагаспадарчай палітыцы людзі кідалі зямлю, уцякалі ў горад. Дайшло да таго, што ў вёсцы асталося толькі 30 гаспадароў, якія найбольш прывязаны пачуццямі да сваёй прафесіі селяніна, што перадалася ім ад дзядоў і прадзедаў. Цяпер у вёсцы няма каму апрацоўваць сотні гектараў зямельных угоддзяў. Былі спробы перказаць гэтую зямлю спулдзельні прадукцыйнай у Дабрамілі. Але цяпер не даюць адпаведных сум на загаспадараванне да кожнага гектара, дык спулдзельцы не хочуць браць зямлю без дзяржаўнага „пасагу".

**Міхась Хмялеўскі**

## Свойскія малюнкі



*Старасельцы. Мал. Уладзіслава Петрука.*

## КАСТРЫЧНІЦКІЯ ВЕЧАРЫ

Жыхары Беласточчыны, асабліва мясцовасцяў з беларускім насельніцтвам, масава і заангажавана ўключыліся ў адзначэнне 70-годдзя Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Якіх толькі форм святкавання не мела ў нас гэтая гадавіна! У беларускай вёсцы Паўлы, слаўнай сваім тэатральным майстэрствам, 8 лістапада адбылася гмінная імпрэза ў гонар 70-годдзя Кастрычніка. У іхным адрамантаваным і абсталяваным новай мэбляй клубе селяніна адбыўся ўрачысты вечар. З дакладам аб Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая прадаўжаецца ў перастройцы, выступіў старшыня гмінна-гарадской рады нарадовай у Заблудаве Іван Хлябіч. Пасля была мастацкая частка, якую запоўнілі Паўлы. Яны выступілі з вядомай ужо п'есай па кніжцы Васіля Быкава „Кар'ер", а іх п'еса называецца „Было гэта ў 1941 г.". Тэма п'есы — першыя дні вайны фашыстаў з Савецкім Саюзам, падзеі адбываюцца на Заходняй Беларусі. Былі і вершы, асабліва падабаўся верш Крысі пра „Ленінскай праўды святло". Пад гэтым лозунгам, па-беларуску прыгожа напісаным над сцэнай, прайшла ўся вечарына ў Паўлах.

— Чаму ў Паўлах? — спытала я Юрыя Аляксеюка, старшыню гмінна-гарадской рады ПРОН у Заблудаве, які нарадзіўся, рос і вучыўся ў Паўлах і не забывае роднай вёскі, часта ездзіць і памагае маме гаспадарыць на куску зямлі, якая засталася па бацьку.

Аказваецца, Кастрычніцкае свята ў Заблудаўскай гміне ў апошнія гады адзначаецца кожны год у іншай мясцовасці. У мінулым годзе было ў Рыбалах, цяпер у Паўлах. Ю. Аляксеюк гаворыць: „Гэта беларуская вёска, там людзі любяць і шануюць такія гадавіны і самі вельмі актыўныя ў грамадскай працы".

— ✵ —

— А за ракой Нарвай, у прыгожай вёсцы Плёскі, што ў двух кіламетрах ад шашы, на суткі раней, 7 кастрычніка выступіў на ўрачыстым вечары ў гонар 70-ай гадавіны Кастрычніка вядомы мужчынскі хор з Рыбалаў пад музычным кіраўніцтвам Пятра Нявінскага. Вечар у Плёсках адбыўся ў мясцовай святліцы, а арганізавала яго і запрасіла рыбалаўскі калектыў кіраўнік гэтай святліцы. „Хлопцы-рыбалоўцы" паехалі ахвотна, а было гэта іх першае выступленне ў Плёсках. Спявалі многа песень — рускіх, беларускіх, польскіх, найбольш ваенных, бо „і мы самі любім ваенныя песні" — тлумачыць Пётр Нявінскі. Спявалі і стражацкія песні, бо ж хлопцы працуюць пад патранатам Ваяводскай каманды пажарных стражаў.

Некаторыя цікаўнасці аб песенным рэпертуары рыбалаўскіх хлопцаў: песню „Гибель Варяга" — спяваюць па-беларуску, так як і слаўную калыханку „Месяц над нашею крышею светит". Спяваюць вось ад нядаўна вельмі прыгожую і нялёгкую рускую песню „Узник" (Сижу за решеткой в темнице

(Працяг на стар. 7)

## З НАСТАЎНІКАМІ ЗА РЭДАКЦЫЙНЫМ СТАЛОМ

(Працяг са стар. 1)

чаюць, нядбайнасць у адносінах да беларускага школьніцтва з боку асветных улад, падыход іх да гэтых спраў як да малаважных.

Справа школьнай рэформы, якая даўно пачалася і ніяк не можа закончыцца, мае немалое значэнне ў навучанні беларускай мовы, асабліва ў гарадскіх пачатковых школах. Напрыклад, у бельскія пачатковыя школы ўліваюцца вучні з вёсак, дзе яны вучыліся ці вучыліся б беларускай мове, але ўжо ў бельскіх школах № 1, 2, 4 не могуць хадзіць на ўрокі беларускай мовы з такой прычыны, што іх там няма, або былі ліквідаваны дырэктарамі. Асветныя ж улады горада тлумачаць так: ёсць у Бельску „тройка", дзе дзеці могуць вучыцца беларускай мове. Гэта дрэннае тлумачэнне, як не круці, нягледзячы ўжо нават на той факт, што якраз беларуская „тройка" ў Бельску не магла прыняць да сябе ўсіх ахвотных.

Дакладчыца, спасылаючыся на апінію настаўнікаў, гаварыла аб патрэбе большай актыўнасці і прыхільнасці дырэктараў школ для справы ўвядзення і навучання беларускай мовы. Прыклад Орлі гаворыць аб тым, як многа добрага можна зрабіць, калі дырэктар ведае сваю ролю і хоча рабіць добрае.

Патрэбны і нават неабходны сустрэчы ГП ці Прэзідыума ГП БГКТ з дырэктарамі школ, з настаўнікамі беларускай мовы і з усімі асветнымі ўладамі, у тым ліку з Куратарыяй. Патрэбны і сустрэчы, і размовы Таварыства і дырэкцыі школ з бацькамі — аб патрэбе навучання роднай беларускай мовы. Трэба гаварыць аб гэтым пры кожнай нагодзе, напрыклад, на школьных урачыстасцях, на якія прыходзяць бацькі.

Многа важнага і важкага сказалі нашы госці-настаўнікі.

Анатоль Мартыновіч падкрэсліў патрэбу, больш — неабходнасць поўнага заангажавання ў справу ўсіх дзеячоў БГКТ і асабліва ў дадзенай гміне. „У нас, — казаў, — беларуская мова — як кожны іншы прадмет. Мы робім так, як лічым, што будзе добра для людзей і для справы". Сказаў таксама, што надта важны і той факт, „што мы як школа даем для асяроддзя, для яго актывізацыі". Тут важная шырэйшая пазашкольная культура і культуратворная праца школы. Сцэнічныя творы на беларускай мове патрэбны неадкладна, дзеці ахвотна іх вывучаюць і ставяць. Заклікаў пісьменнікаў і рэдакцыю працаваць у гэтым напрамку. Добра было б, паводле Мартыновіча, каб беларускі рэпертуар для школ — п'есы, песні — наігрываць на касеты. Гэта быў бы дасканалы дапаможнік для настаўніка і матэрыял для працы ў асяроддзі. Такую пробную касету падрыхтавала ў Орлі сама настаўніца беларускай мовы Таня Шыманская і форма гэтая вельмі прыдатная ў працы з дзецьмі. А. Мартыновіч закрануў і дэмаграфічныя працэсы — выміранне вёсак. У такой сітуацыі малыя школкі не ўтрымаюцца, але ў гмінных трэба рабіць усё, каб беларуская мова навучалася.

Галя Тапалянская казала, што ёсць у нас людзі, якія робяць вельмі многа, асабліва настаўнікі беларускай мовы. Але яны як бы пакінуты самі сабе. Ці не магло б быць больш прызнання ім з боку БГКТ? Ці нельга

## БЕЛАРУСІКІ

Hilewicz N.S., Z kłopatam pra pesni naroda, Mińsk 1970. Rec. Czurak Maria, *Slavia Orientalis* 1970, nr 3, s. 322.

Hilewicz Nil, Tutaj, pośród pagórków w borach w bezkresnych dąbrowach (w), tł. Tadeusz Chróścielewski. *Pismo Literacko-Artystyczne* 1986, nr 11/12, s. 92, rys.

Historyja Belaruskaj SRR u pyaci tamach. T. 4—5, Mińsk 1975. Rec. Kosman Marceli, *Kwartalnik Historyczny* 1977, nr 1, s. 228—231.

Giułumianc K., Czekman W., Polska gwara m. Widze i okolicy (na substracie białorusko-litewskim), *Slavia Orientalis* 1971, nr 3, s. 313—326, mapa.

Glinka Stanisław, O wyrazie *guziny* w gwarach polskich i białoruskich, *Acta Baltico-Slavica* t. 16, 1984, s. 111—114, mapa.

Głowacki Eugeniusz, Fik Czesław, Kasprzak Tadeusz, Budowa geologiczna oraz warunki występowania złóz bituminów w obszarze BSRR. *Geofizyka i Geologia Naftowa* 1968, nr 11/12,( s. 329—338, rys. tab., wykr., mapy.

Głuszkowaska Jadwiga, Białoruskie słownictwo garncarskie w gwarach wschodniej Białostocczyzny, *Studia z Filologii Polskiej i Słowiańskiej*, (t) 14, 1974, s. 189—202.

Głuszkowska Jadwiga, Rydzewska Jolanta, Białoruskie słownictwo z zakresu rybołówstwa w gwarach Białostocczyzny Wschodniej, *Acta Baltico-Slavica*, t. 16, 1984, s. 115—132.

Gonczarow N., Adamow I., Organizacja nasiennictwa ziemniaków w Białoruskiej SRR. Tł. *Międzynarodowe Czasopismo Rolnicze* 1978, nr 6, s. 64—65.

Gostyńska Weronika, Materiały archiwalne o tajnych rokowaniach polsko-radzieckich w Baranowiczach i Białowieży — (czerwiec—lipiec 1919). *Z Dziejów Stosunków Polsko-Radzieckich* t. 4, 1969, s. 150—1972.

Góra Stanisław, Początki powstania styczniowego na Litwie i Białorusi oraz działania oddziału Romana Rogińskiego na tych terenach w okresie od 7 lutego do 3 marca 1863 r. *Studia i Materiały do Historii Wojskowości 1985*, t. 28, s. 199—211.

Grabowska Teresa, Białoruski taniec. *Trybuna Ludu* 1972, nr 340, s. 8.

Grek-Pabisowa I., Gwara starowierców a północno-wschodnie gwary białoruskie (cechy fonetyczne). *Acta Baltico-Slavica* t. 9, 1976, s. 211—218, mapy.

Grek-Pabisowa I., Glinka, Dorobek publikacji Instytutu Słowianoznawstwa PAN w zakresie językownawstwa wschodniosłowiańskiego (Język białoruski). *Biuletyn Slawistyczny* R. 3, 1978, s. 45—48.

Grickiewicz Anatolij, Torgowyje swiazi Słucka z gorodami Polszi i Pribałtiki w XVI—XVIII wiekach i ich otnoszenia w inoziemnoj torgowle goroda. *Acta Baltica-Slavica* t. 6, 1969, s. 51—73.

Grickiewicz Anatolij, Czastnowładielczeskije goroda Biełorusii w XVI—XVIII ww., Mińsk 1975. Rec. Wyrobisz Andrzej, *Przegląd Historyczny* 1977, z. 2, s. 392—396.

Grickiewicz Anatolij, Czastnowładielczeskije goroda Biełorusii w XVI—XVIII ww., Mińsk 1975. Rec. Sielicki Franciszek, *Acta Universitatis Wratislawiensis no 381 Slavica Wratislaviensia 1977*, t. 12. s. 162—164; Wyrobisz Andrzej, *Przegląd Historyczny* t. 68, 1977, z. 2, s. 392—396.

Grickiewicz W.P., Rozwój myśli Mikołaja Kopernika i Galileo Galileusza w naukach przyrodniczych Litwy i Białorusi w XVI—XVIII ww., tł. Witold Jaroszyński. *Zdrowie Publiczne* 1973, nr 5, s. 449—458, rez., sum.

Gronowicz Antoni, Korzenie twórczości, rozm. przepr. Tadeusz Kucharski. *Literatura* 1980, nr 35, s. 6, il.

Gronowicz Antoni, To był ciężki wysiłek..., rozm. przepr. Ryszard Pietrzak. *Trybuna Ludu* 1980, nr 198, s. 5.

Gruco A., Zdania podrzędne okolicznościowe celu w języku białoruskim. *Slavia Orientalis* 1966, nr 3, s. 307—319.

Gruco Aleksy, Zdanie podrzędne okolicznościowe czasu w języku białoruskim. *Slavia Orientalis* 1968, nr 1, s. 67—78.

Gruszecki Kajetan, O sprawach zawiłych, Między Siemiatyczami a Hajnówką (Problem białoruskiej mniejszości narodowej). *Trybuna Ludu* 1957, nr 342, s. 4, il.

**P.C.**

## У ГОНАР ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА

Урачыста адзначалася святкаванне сямідзесятай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Нараўцы.

8 лістапада адбылася тут у школьнай спартыўнай зале ўрачыстасць, на якой прысутнічалі прадстаўнікі гміннай улады і жыхары Нараўкі.

Пасля афіцыяльных прамоваў і ўручэння ўзнагарод заслужаным асобам, выступілі з багатай праграмай мастацкія калектывы з Ляўкова, Семяноўкі і Нараўкі.

У першай частцы канцэрта гучалі песні і вершы, тэматычна звязаныя з гістарычнымі падзеямі, у другой — беларускія песні розных гадоў.



Салістка Марыя Аліфер з пачатковай школы ў Ляўкове.

У гэты халодны, пахмурны вечар у зале панаваў цёплы настрой.

„Запальвае вечар агні
Над мілым Ляўковам
маім...“ —

спявалі ляўкоўскія „Цаглінкі“ песню мясцовых аўтараў.

Дзвюхгадзінная мастацкая праграма спадабалася гледачам, якія не шкадавалі апладысментаў самадзейным артыстам. Арганізатарам гэтага канцэрта быў ГОК у Нараўцы.

**М. Варанецкі,**
Фота В. Кандрацюка




Выступае калектыў з Нараўкі.




Спяваюць „Цаглінкі“.

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

Хто-небудзь з самых запальчывых чытачоў усклікне: „Чаго там валаводзіцца з тым Ягайлам? Вядома ж, што гэта адступнік ад веры бацькоў і насаджальнік каталіцкага веравызнання ў Вялікім княстве Літоўскім, Няма што апраўдваць яго благія ўчынкі...“ Апраўдваць Ягайлу няма патрэбы, бо яго апраўдала гісторыя. Нам жа астаецца прыгадаць толькі тыя абставіны, якія прымусілі гэтага аднаго з самых выдатных людзей Беларусі вырашаць цяжкія справы так, як ён іх вырашаў.

Варта ж узяць пад увагу хаця б такі факт. Яшчэ Кракаў гудзеў каранацыйнай весялосцю, як Габсбургі пачалі ў духоўным судзе ў Рыме даказваць няважнасць шлюбу Ядвігі з Ягайлам і разам з гэтым — бяспраўнасць каранацыі князя віцебскага і крэўскага на караля польскага. І справу выйгралі!

Папскія суддзі прызналі, што адзіным законным мужам Ядвігі ёсць Вільгельм Габсбургскі, і і толькі яму належацца ўсе правы сужонка. Значыць, Ягайла — гэта злачынец, бо ён патаптаў святасць дадзенага больш за дзесяць год таму назад шлюбу Ядвігі з Вільгельмам і мусам выхапіў каралеўскую карону, якая па праву належыцца толькі Габсбургу. Такім чынам яскравы бляск Ягайлавай пышнай кароны пачаў маланкава тускнець у вачах сучасных, а правы яе ўладальніка да каралеўскага ложа і трону павіслі на валаску. Усё залежала ад таго, ці папа рым-




скі Урбан VI зацвердзіць прысуд. А папа разважаў з пункту гледжання дабра каталіцкай царквы: хто з іх, Вільгельм ці Уладзіслаў, больш карысны ёй, таму і быць мужам Ядвігі ды панаваць у Кракаве.

Усё складалася ў карысць Вільгельма — ён жа быў нашчадкам старадаўняга каталіцкага каралеўскага роду! Але і ва Уладзіслава-Ягайлы таксама знайшоўся козыр: ён браўся ахрысціць у каталіцкую веру жмудзінаў, літоўцаў і іншых язычнікаў ды пашырыць яе сярод праваслаўных „адшчапенцаў“. Гэтага аніяк не змог бы зрабіць Вільгельм, і таму перавага магла быць на баку Ягайлы.

За справу адразу ўзяліся крыжакі. Надта ж красамоўнымі вуснамі сваіх агентаў намагаліся яны пераканаць Урбана VI і яго акружэнне, што прыняццё Ягайлам каталіцкай веры ілжывае, падманнае таксама і хрышчэнне ім Літвы. Болей таго, пад панаваннем Ягайлы каталіцкаму Каралеўству Польскаму пагражае калі не вяртанне ў язычаства, то ў яшчэ горшы ад яго пераход у праваслаўнае „адшчапенства“.

Ягайла і прыхільная яму частка польскага духавенства, асабліва біскупы кракаўскі Пётр і пазнанскі Дабрагост, таксама не драмалі. Святому айцу былі прадстаўлены пергаміны з неймаверна шчодрымі ахвяраваннямі караля віленскаму каталіцкаму біскупству, паасобным яго парафіяльным касцёлам ды надта ж багатая „дзесяціна“ ў золаце для самога папы ад толькі што ахрышчаных Ягайлавых шматлікіх падданых. І гэта перахіліла шалі ў карысць Альгердавіча — навесну 1388 г. у Кракаў абод-

 

# Навучанне беларускай мовы ў 1987/88 г.

**(статыстычная даведка)**

Паводле афіцыйнай школьнай статыстыкі, у бягучым 1987/88 годзе беларуская мова вывучаецца 4321 вучнем пачатковых і сярэдніх школ Беласточчыны ў параўнанні з 4343 вучнямі ў мінулым школьным годзе.

Колькасць навучэнцаў агульнаадукацыйных ліцэяў з беларускай мовай навучання ў 1987/88 годзе складае 635, г. зн. на 8 вучняў менш, чым у мінулым годзе, у тым ліку ў Бельскім ліцэі 387 (—7) і ў Гайнаўскім 248 (—1).

Пасля шматгадовага перапынку адноўлена навучанне беларускай мовы ў школьным філіяльным пункце ў Чаромсе-вёсцы. Адначасова спынілася яе навучанне ў Райску і Старыне ў сувязі з ліквідацыяй тамашніх школ, а таксама ў філіяльных пунктах у Паўлах і Піліках. У выніку гэтых змен, у 1987/88 годзе беларуская мова вывучаецца ў 58 пачатковых школах і іх філіяльных пунктах у параўнанні з 61 у мінулым годзе.

Агульная колькасць вучняў пачатковых школ, якія вывучаюць беларускую мову, зменшылася на 14 і ў 1987/88 годзе складае 3686, у тым ліку ў II класах — 531, у III — 554, IV — 519, V — 503, VI — 539, VII — 510 і VIII — 530. Становішча ў асобных школах паказвае табліца, у якой у рубрыцы „А“ падаецца колькасць вучняў, якія вывучаюць беларускую мову, і ў рубрыцы „Б“ — іх удзел (у працэнтах) у агульнай колькасці вучняў дадзенай школы без першага класа.

Як паказваюць дадзеныя, прадстаўленыя ў табліцы, навучанне беларускай мовы ў паасобных школах надалей выказвала самыя разнастайныя тэндэнцыі. Прыкладна ў 1/3 школ паказчык яе навучання (гл. рубрыку „Б“) у 1987/88 годзе не змяніўся, у 1/3 — палепшыўся і ў такой самай меры — пагоршыўся. Значны прагрэс навучання беларускай мовы дасягнуты ў школах у Грабаўцы, Ляшуках, Саках, Малінніках, Нурцы, Красным Сяле і Новай Волі. Пагоршылася становішча ў Вольцы Нурэцкай, Дашах, Старым Ляўкове, Рыбалах, Шудзялаве і Гарадку. Найбольш зменшыўся стан навучання ў Аўгустове — з 87,9% у 1986/87 годзе да 13,9% у бягучым школьным годзе.

**НАВУЧАННЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў ПАЧАТКОВЫХ ШКОЛАХ**

| | 1986/87 | | 1987/88 | |
|---|---|---|---|---|
| | А | Б | А | Б |
| Кленікі | 153 | 98,7 | 135 | 100,0 |
| Ласінка | 58 | 100,0 | 58 | 100,0 |
| Пашкоўшчына | 59 | 100,0 | 54 | 100,0 |
| Дубяжын | 55 | 100,0 | 50 | 100,0 |
| Крывец | 50 | 100,0 | 49 | 100,0 |
| Барысаўка | 30 | 100,0 | 21 | 100,9 |
| Бельск № 3 | 645 | 99,8 | 702 | 99,9 |
| Махнатае | 54 | 98,2 | 66 | 98,5 |
| Пасынкі | 85 | 94,4 | 74 | 97,1 |
| Стары Корнін | 33 | 100,0 | 32 | 97,0 |
| Дубічы-Царкоўныя | 96 | 100,0 | 112 | 96,5 |
| Курашава | 64 | 95,5 | 64 | 95,5 |
| Новы Корнін | 53 | 93,0 | 48 | 94,1 |
| Орля | 243 | 96,4 | 231 | 93,1 |
| Грабавец | 49 | 75,4 | 52 | 92,9 |
| Ляшукі | 58 | 86,6 | 50 | 92,6 |
| Чыжы | 196 | 94,7 | 184 | 92,0 |
| Арэшкава | 81 | 91,0 | 83 | 91,2 |
| Волька-Нурэцкая | 52 | 100,0 | 41 | 91,1 |
| Сакі | 51 | 68,9 | 65 | 89,0 |
| Маліннікі | 85 | 81,2 | 95 | 88,8 |
| Дубіны | 112 | 86,1 | 119 | 85,6 |
| Новае Беразова | 55 | 78,6 | 55 | 78,6 |
| Дашы | 58 | 82,9 | 50 | 76,9 |
| Трасцянка | 57 | 71,3 | 55 | 73,3 |
| Малешы | 19 | 57,6 | 21 | 72,4 |
| Нурэц | 56 | 58,9 | 60 | 72,3 |
| Храбалы | 65 | 67,7 | 84 | 68,8 |
| Янова | 42 | 71,2 | 32 | 68,1 |
| Семяноўка | 51 | 64,6 | 50 | 66,6 |
| Налічная | 45 | 67,2 | 42 | 66,6 |
| Старое Ляўкова | 95 | 65,5 | 88 | 57,9 |
| Рыбалы | 69 | 56,6 | 57 | 51,3 |
| Рагачы | 31 | 52,5 | 30 | 50,0 |
| Краснае Сяло | 28 | 44,4 | 31 | 48,4 |
| Нараўка | 81 | 34,3 | 92 | 37,1 |
| Новая Воля | 18 | 19,6 | 28 | 35,0 |
| Іванкі | 11 | 30,5 | 11 | 30,5 |
| Зубры | 14 | 31,1 | 10 | 28,6 |
| Кляшчэлі | 47 | 26,9 | 47 | 25,4 |
| Гайнаўка № 3 | 46 | 25,3 | 45 | 23,9 |
| Нарва | 54 | 23,3 | 56 | 22,3 |
| Клюковічы | 18 | 19,8 | 17 | 22,1 |
| Залукі | 12 | 24,0 | 10 | 21,3 |
| Шымкі | 23 | 13,3 | 27 | 15,8 |
| Аўгустова | 29 | 87,9 | 14 | 13,9 |
| Гайнаўка № 2 | 140 | 13,5 | 144 | 13,1 |
| Чаромха-пасёлак | а) | а) | 34 | 7,5 |
| Сяміхочы | 10 | 9,3 | 6 | 6,2 |
| Мілейчыцы | 10 | 3,5 | 10 | 3,7 |
| Шудзялава | 11 | 7,1 | 5 | 3,6 |
| Гарадок | 30 | 6,1 | 16 | 3,0 |
| Гайнаўка № 1 | 23 | 2,3 | 22 | 2,1 |
| Райск | 24 | 72,7 | б) | б) |
| Старына | 19 | 79,2 | б) | б) |
| **Філіяльныя пункты** | | | | |
| Тыневічы Влк. | 10 | 100,0 | 11 | 100,0 |
| Плёскі | 10 | 100,0 | 10 | 90,9 |
| Чаромха-вёска | — | — | 12 | 85,7 |
| Ялоўка | 9 | 100,0 | 11 | 78,6 |
| Волька-Выганоўская | 7 | 63,6 | 8 | 61,5 |
| Паўлы | 5 | 35,7 | — | — |
| Пілікі | 6 | 54,5 | — | — |
| Разам | 3700 | | 3686 | |

а) Паводле неафіцыйных дадзеных беларускую мову вывучала 48 вучняў
б) школа ліквідавана

**Ю. Туронак**

# ПАРНАСІК

чытальніцкая літсупалка на негарантаваных паях

## БЫЦЬ АЎТЭНТЫЧНЫМ

Быць аўтэнтычным — значыць тое,
Каб быць заўсёды толькі сабою,
Мець „я“ сваё у кожны час,
І тое „я“ каб сведчыла аб нас!

Быць аўтэнтычным — значыць тое,
Каб быць заўсёды толькі сабою.
Сумленне, гордасць мець сваю
У кожную пару.

Быць аўтэнтычным — значыць тое,
Каб быць заўсёды толькі сабою.
У згоднасці каб былі ў нас
Думка, мова і пачын наш.

Быць аўтэнтычным — значыць тое,
Каб быць заўсёды толькі сабою
І не хавацца пад маскай нягоднай
Толькі таму, што так нам выгодна.

**Рышард Бутайла**

# НАША ПОШТА

**Ірына Юрчук, Гародчына.** Ваша апавяданне мы надрукуем, папраўіўшы сям-там. Калі б было яно нікудышняе, мы б яго не папраўлялі б і, вядома, не друкавалі б. Мы ўжо вам пісалі, што літаратура немагчымая без нач[illegible]ганасці. Вам трэба многа чытаць і яшчэ больш думаць пра чытанае, пра тое, чаму пісьменнік напісаў так, а не іначай, і чаму выбраў такія словы, а не іншыя... Гэтых „чаму“ процьма! Ніхто і нікога яшчэ не навучыў і не навучыць пісаць апавяданні; можна толькі дапамагчы, і не больш. Дапамагчы можна тады, калі відаць, што аўтар зразумее гэтую дапамогу не як выручку. У вас відаць культурнасць у беларускім запісе. І гэта дае надзею на развіццё вашай таленавітасці. Рэкамендуем вам кніжкі Янкі Брыля, Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Івана Шамякіна, вядома, Якуба Коласа „У палескай глушы“ перш за ўсё. Гэта аповесць шмат чаму навучыць вас як будучую пісьменніцу.

ва біскупы прывезлі Ядвізе і Уладзіславу благаславенне і віншавальную булу Урбана VI.

Гэта быў велічны трыумф Ягайлы — найвышэйшым тагачасным аўтарытэтам мала вядомы дагэтуль віцебскі і крэўскі князёк узводзіўся ў сціслы круг каралёў. Якраз ухваленая папам каралеўская карона адкрывала перад ім і перад яго айчынай новыя перспектывы. Гэта і была тая першая прыступка на доўгай і вельмі стромкай ды пакручастай лесвіцы, якая вяла да Грунвальдскай перамогі. І за тое трэба было плаціць, шчодра плаціць, бо такія здабыткі нікому дарма не прыходзяцца.

Невыпадкова ўвесь год — ад восені 1386 і да восені 1387 года — Ягайла правёў у Вялікім княстве Літоўскім. Ва ўсіх справах хрысціянізацыі язычаскага насельніцтва прымаў ён асабіста непасрэдны ўдзел — не хацеў нікому даручаць гэтай справы, інстынктам вялікага дзяржаўнага дзеяча адчуваў яе надзвычайную важнасць. Падаўся ў Кракаў да свае маладзенькай каралевы толькі тады, калі зрабіў ўсё, што ад яго залежала, каб выйграць бітву з Вільгельмам.

Зрэшты, даручыць такую справу і не было каму. Са шматлікіх нашчадкаў Альгерда на самай справе толькі адзіны брат Скіргайла Іван верна і шчыра дапамагаў Ягайлу, быў яго правай рукой, іншыя ж або не спрыялі яму, або не праяўлялі неабходных здольнасцяй. Цікава, што якраз Скіргайла-Цікава, што якраз Скіргайла-Іван быў праваслаўным, ніколі не адступіўся ад свае веры і гэта зусім не пахіснула брацкай еднасці паміж ім і Ягайлам. Са Скіргайлам Ягайла дзяліў уладу ў краіне пасля смерці дзядзькі і яму аддаў ва ўладанне Кейстутаў удзел. Скіргайла стаў яго апорай і ў змаганнях супроць крыжацкага націску, і ў захадах наконт каралеўскай кароны.

Гэта ж не хто іншы, як Скіргайла ўзначальваў найважнейшыя пасольствы да кракаўскіх вяльможаў, маці Ядвігі ды і самой каралевы падчас Ягайлавага сватання і, урэшце, ён „вёў“ яго вясельны карагод у Кракаў. І найважнейшае: усе пагадненні — крэўскае, ваўкавыскае, люблінскае — паміж Вялікім княствам Літоўскім і Польшчай заключаліся з удзелам Скіргайлы. Таму не будзе перабольшаннем, калі скажам, што ў справе набліжэння, а затым і з'яднання абедзвюх дзяржаў выдатную ролю адыграў праваслаўны Скіргайла-Іван.

Нельга прамаўчаць таксама і таго, што і ў хрысціянізацыі язычаскага насельніцтва Скіргайла, як уладальнік ранейшага Кейстутавага ўдзела, дзе яно толькі і жыло, унёс немалы ўклад. Яшчэ большае значэнне мела асоба князя троцкага Скіргайлы-Івана ў далікатнай справе пашырэння каталіцкага веравызнання сярод праваслаўнага насельніцтва. Мабыць, гэта дзякуючы яго пільнасці не абярнулася яно ў пагалоўнае перахрышчванне, але адбывалася ўсё ж з захаваннем поўнай дабравольнасці, чаго не ведала тагачасная Еўропа.

Сваё прызнанне і ўдзячнасць брату за старанні Ягайла выказаў тым, што ад'язджаючы ўвосень 1387 года ў Кракаў, як сцвярджае „Хроніка Быхаўца“: „...губернатарам паставіў у Вільні і на Вялікім княстве Літоўскім брата свайго Скіргайлу“.

Ці ўсім гэта падабалася? Пра гэта — наступным разам.

**Мікола Гайдук**

(Працяг са стар. 4)

# КАСТРЫЧНІЦКІЯ ВЕЧАРЫ

сырой), ноты і словы даў дыякан мясцовага праваўслаўнага прыходу, які таксама з'яўляецца і членам калектыву. Спявалі ў Плёсках новую песню Мікалая Ігнацюка „Над Нарвай“ — гэта пра загінуўшы полк над Нарвай недалёка ад Рыбалаў у першыя дні вайны. Праспявалі жыццерадасную рускую „Как земля прекрасна“ і сумную беларускую на словы свайго Мікалая Ігнацюка „Чорна хмара“ — пра расстрэл вёскі Райск. Даскачала праспявалі вялікую песню „День победы“, а закончылі вясёлай беларускай „Бывайце здаровы!“. **(вв)**





 

(Працяг са стар. 9)

## ВАЛОВАЯ ХАТКА

*Гусака, а праз нейкі час і Баран прыйшоў).*

БАРАН: Мне мусіць канец будзе. Змілуйцеся!

ВОЛ: *(рагоча праз акно)* То і цябе твая воўна ўжо не грэе? *(Баран зусім ўтуліўся ў свой кажух і маўчыць)* Думаю, што хопіць усім нам тут месца, заходзь *(Упусціў і Барана ў сваю хату).*

ВЯДУЧЫ: Вось і сталі яны ўсе жыць у цёплай ды ўтульнай валовай хатцы. Ці то мароз па пушчы ляскае, ці то завейка шалее — зверы ў печ смалістыя бярвенні падкідаюць ды выгодай цешацца. Аднойчы блукала па пушчы за спажываю галодная Ліса ды ўбачыла гэтую хатку.

*Сярод гледачоў паяўляецца Ліса, якая разглядаецца нейкі час. Угледзела хатку на сцэне, прыйшла да яе і стукае ў дзверы.*

ВОЛ: *(выглянуўшы цераз акно)* Хто там?

ЛІСА: Гэта — я, ваша суседка — Ліса.

ВОЛ: А што табе трэба?

ЛІСА: Хачу разам з вамі павесяліцца.

ВОЛ: Не пушчу, бо нашы з вашымі ніколі разам не гуляюць.

*Затраслася са злосці Ліса, абегла вакол хаткі, шукаючы шчыліны, каб улезці, але не знайшла. Затрымалася, падумала і пайшла шукаць Ваўка, які ў той час хадзіў сярод гледачоў.*

ЛІСА: *(Да Ваўка)* Ці вячэраў ты сёння, куме?

ВОЎК: Не то што не вячэраў, кумачка, але і не абедаў і не снедаў вось колькі ўжо дзён!

ЛІСА: Ой, кумок, каб ты ведаў, колькі жыўнасці ўсялякай у нашай пушчы завялося!

ВОЎК: *(здзіўлена)* Няўжо? А дзе ж яна, тая жыўнасць?

ЛІСА: А вунь, у хатцы пад ёлкаю *(паказвае).* Там тлустая бараніна на зуб так і просіцца. *(цягне Ваўка да хаткі)* Давай, кумок, пайдзі і ўлезь да іх, а я за табой.

ВОЎК: *(Падышоў да хаты і стукае ў дзверы)* Гэй вы там, адкрывайце!

ВОЛ: *(Выглядае праз акно)* А хто там?

ВОЎК: Гэта — я, ваш сусед — Воўк.

ВОЛ: А што табе трэба?

ВОЎК: Пусці ў хату: хачу ў вас на вячорках пасядзець.

ВОЛ: Не пушчу, бо нашы з вашымі ніколі разам на вячорках не бываюць. *(Воўк скрыгатнуў зубамі, паспрабаваў у хату ўлезці, але нічога не выйшла).*

ВОЎК: *(завыў)* Ау-у-у! *(і пабег назад у лес. Ліса за ім. Спаткае Мядзведзя, які сярод гледачоў мясціўся засынаць у бярлозе).*

ЛІСА: *(да Мядзведзя)* А ці ты, сваце, перад доўгім сном хоць пасілкаваўся, як належыць?

МЯДЗВЕДЗЬ: Зусім з пустым жыватом, сванечка, спаць лажуся. Кішкі марш граюць, аж прыкра слухаць.

ЛІСА: Ой, сватож, а ці ты не ведаеш якая безліч свежаніны ў нашай пушчы цяпер ёсць?

МЯДЗВЕДЗЬ: Ну, што? А дзе ж яна, тая свежаніна?

ЛІСА: Ды ў хатцы, глянь, што пад ёлкаю *(паказвае).* Там такая мяккая маладзенькая ялавічына брыкае, што аж цяжка вока адвесці *(цягне яго да хаткі).* Ідзі, сваце, праваліся ў гэту хату, а напэўна не пашкадуеш, я табе гавару. *(Мядзведзь падышоў да хаты і грукоча ў дзверы).*

ВОЛ: *(выглядае)* Хто там яшчэ?

МЯДЗВЕДЗЬ: Гэта — я, ваш сусед — Мядзведзь.

ВОЛ: А што табе трэба?

МЯДЗВЕДЗЬ: Пусці ў хату, пераначаваць у вас хачу.

ВОЛ: У, не пушчу, бо нашы з вашымі ніколі разам не начуюць.

*Забурчэў са злосці Мядзведзь і грымнуў лапаю ў дзверы, тыя і разваліліся. Увайшоў у сярэдзіну, а там на яго жывёлы кінуліся. Вол рагамі да сцяны прыпёр, Баран ілбом яго таўчэ, Гусак дзюбай за скуру дзяўбе, а Певень стаіць і крычыць.*

ПЕВЕНЬ: *(крычыць)* Куды ты так! Так яго ды так!

*Мядзведзь ледзь вырваўся з хаткі і бяжыць за Лісой на публіку, страшна енчучы. Ліса перад ім уцякае.*

МЯДЗВЕДЗЬ: Уцякай, сванечка з пушчы, покі час! *(і да публікі)* Вой, якія тут завяліся вельмі бойкія, ваяўнічыя разбойнікі. Як увайшоў я да іх, дык мяне адразу адзін рагамі да сцяны прыпёр, другі булавою пачаў валіць, трэці крукам скуру на мне дзерці, а чацверты з крывою чырвонаю шабляю стаяў і камандаваў: „Так яго, ды так!“ Добра, што хоць удалося мне вырвацца адтуль, а то і ў жывых не астаўся б.

*Мядзведзь выходзіць. Жывёлы сядзяць у хатцы, вясёлыя, цешацца.*

ВЯДУЧЫ: Вось так і засталіся жыць у хатцы пад ялінкаю ў пушчы: Вол, Баран, Гусак ды Певень. Жылі яны сабе, ды пажывалі доўга і шчасліва, і спакойна дабро нажывалі.

*На заканчэнне вядучы ўваходзіць на сцэну, а за ім чаргова ўсе выканаўцы роляў. Вядучы прадстаўляе, што гэта было і хто іграў ролі.*

**Канец**

**(Пав. запісу М. Гайдука)**

Сцэнічная апрацоўка

**Яна Мордaня**

**НАШЫ ПЕСНІ**

## СНЕЖНЫ ДЗЕД

*Музыка Алега Залётнева*
*Словы Ніла Гілевіча*




Колькі шуму, колькі смеху:
Лепім дзеда мы са снегу!
Задала зіма работы —
Па двары каціла ўтрох —
І паставілі ля плота.
Дзед стаіць, хоць і без ног.
Замест рук уткнулі палкі,
Вочы — вугалю кавалкі,
Нос — чарэпак з гладыша,
Барада — шматок кудзелі,
А на лысіну надзелі
Кош замест капелюша.
Ну і дзед! Відаць, яму
Тут стаяць усю зіму.
Будзе ён тут па начах
Наганяць на зайцаў страх.
Каб не бегалі сюды
Сад псаваць нам малады!
Колькі шуму, колькі смеху:
Лепім дзеда мы са снегу!

**·А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А·**



**Замалюй месцы такімі колерамі: 1 — жоўты, 2 — аранжавы, 3 — чырвоны, 4 — фіялетавы, 5 — сіні, 6 — зялёны, 7 — бронзавы, 8 — чорны.**




**Устаў адпаведныя цыфры ў „птушаняткі“ так, каб выйшла правільнае рашэнне.**

(Працяг са стар. 9)

**ВЕРШЫ НІЛА ГІЛЕВІЧА**

**І дрыжаць-зіхацяць яе**
**Срэбраныя бусы.**
**Дзед цукеркі раздае**
**Ды смяецца ў вусы.**

Можна па-рознаму выкарыстаць верш на школьнай сцэне, можна яго інсцэнізаваць інакш, чым мы прапануем.

Добра было б інсцэнізуючы нашу прапанову, усім разам паўтарыць зваротку „Новы год! Новы год!“ яшчэ раз на заканчэнне ,ходзячы пры гэтым карагодам вакол ёлкі.

Дэкламатараў можна адзець у адпаводныя касцюмы (з паперы ці матэрыялу): Беласнежная зіма, Дзед Мароз, Заяц, Коцік і г.д.

Хто будзе ставіць „Валовую хатку“, лёгка можа выкарыстаць тыя касцюмы ў гэтым вершы.

## ГОСЦЯ

Што за госця, за паненка,
І адкуль прыйшла ў наш дом,
Што зялёная сукенка
Прыцярушана сняжком?

Стала ціха сярод хаты
Бачна, рада дзетвары,
Мы паднеслі ў гонар свята
Ёй дзівосныя дары:

Завушніцы і каралі,
Бранзалеты і алмаз.
Самі вокала пасталі,
Каб не збегла ў лес ад нас.

Што ж за госця за такая,
І адкуль прыйшла ў пакой?
Хто з вас першы адгадае —
Малайчына будзе той.

**(Ёлка)**

***Увага. Добра будзе, калі ў адказ на пытанне дэкламатара, усе прысутныя на ёлцы дзеткі адкажуць гурбою: Ёлка!***

## ВЕРАБЕЙ

Холад ціснe ўсё мацней,
Стынуць дрэвы ў шэрані.
Прабірае да касцей
Верабейку шэрага.
Скача, скача па двары,
Пырхае, чырыкае.
Гора, што ні гавары,
Гора, дый вялікае.
Абляцеў усё сяло,
Гумны ўсе і сметнікі, —
Ні крупінкай, як на зло,
Не разжыўся, бедненькі.
Ой і цяжкая зіма
З лютай сцюжай гэткаю!
Сеў бядак і задрамаў
Пад старой паветкаю.
І сасніў, нібыта зноў
Свеціць сонца веснае,
А яды — на сто гадоў
У запас нанесена!
Прахапіўся верабей,
Зірк: ажно за студняю,
У кармушцы на вярбе,
Снегіры палуднуюць!
Ён туды — чырык! чырык!
Узляцеў на дошчачкі:
— Расступіцеся, сябры,
Дайце мне, хоць трошачкі!

*На заканчэнне даць заклік: Дарагія сябры, памажыце нашым птушкам і звярам пражыць цяжкую зіму!*

## ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР. 220051, г. Мінск-51, вул. Дэкабрыстаў, 6-А, кв. 7, Наташа Левенкова, 6 клас.

* ✲ *

БССР. 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 7, к. 3, кв. 5, Юля Маскалёва, 8 клас.

* ✲ *

БССР. 220036. г. Мінск-36, вул. Волаха, 7, к. 3, кв. 1-А, Лена Галяшова, 9 клас.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 9, кв. 119, Аксана Сурмач, 9 клас.

* ✲ *

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі р-н, д. Краснае, вул. 1 Мая, д. 12а, Оля Паплаўская.

* ✲ *

СССР, 150031, г. Ярославль, ул. Юности, д. 5, кв. 48, Оксана Куликова.

* ✲ *

СССР, 150031, г. Ярославль, ул. Юности, д. 9, кв. 63. Юля Розина.

З новых баек

## „Я быў лысым“

Пражыўшы восем год на свеце,
Калі і з граматай яшчэ быў
не ў ладах,
Я надпіс гэтакі ў газеце
Прабэкаў па складах
Пад кучаравай галавой
І быў, як кажуць, сам не свой —
Малюнак той так моцна мяне ўразіў.
Далей там сказана было:
„Калі вам, бедаку, стаць
лысым давялося,
Вы зможаце адолець зло,
Мы дапаможам у бядзе,
Як выпішаце нашы мазі
І будзеце ужываць іх дзень у дзень,
Дык хутка адрасце валоссе,
І станеце прыгожым, як былі“.
Далей ішлі рублі —
„Прыстойная“ цана.
А я тады хоць быў малы, сам,
Але баяўся ўжо стаць лысым,
Прашу: — Купі мне тыя лекі, мама!
— Ды гэта ўсё мана,
Хлуслівая рэклама
І абяцанкі іх пустыя.
Валосікі ў цябе харошыя, густыя.
Якія яшчэ лекі! —
Смяецца мама з недарэкі.
Прайшла гадоў імклівых чарада
І пакаленняў змена —
Аж белая ў мяне ўжо барада
І чэрап голы як калена, —
Тут шавялюры ўжо не адрасці.
Але ў жыцці
Мы і сягоння сустракаем часам,
Калі знаёмімся з калгасам
ці саўгасам:
У банку — брэш,
На полі — плеш,
У справы глянь — не разбярэш,
А кіраўнік без прыкрасці панурай
Трасе фальшывай шавялюрай,
Задраўшы нос,
Надаўшы важны выгляд рысам,
Крычыць з трыбуны: — Я быў лысым!
А вось узяўся і аброс. —
Самарэклама ў кожнай фразе...
Якія ж ужываў ён мазі?
Як папраўляў запушчаныя справы.
Што стаў раптоўна „кучаравым“
І так бадзёра ходзіць па зямлі?
Ён прыстаўляў да палачак нулі.

Кандрат Крапіва







— Шчыра кажучы, я ўяўляў сабе дзверы ў царства нябеснае крыху інакш.

### СВАЯ ПРАЎДА

Пасажыр звяртаецца да дзяжурнага па вакзалу:

— Не разумею, навошта тут вісіць расклад цягнікоў, калі яны ўсё спазняюцца?!

— А як бы вы даведаліся, што ваш цягнік спазняецца, калі б гэтага раскладу не было? — адказвае яму дзяжурны.



### „СВАЕ“ РЭЧЫ

Ідзе задрыпанец позняй ноччу па вуліцы, сустракае Кастуся. У таго ў руках дзве вялікія торбы з парожнімі пляшкамі. Задрыпанец пытае:

— Куды гэта ты іх нясеш сярод ночы? Прыймальны пункт адкрываецца толькі ад восьмай раніцы.

— Ды я не ў прыймальны, — адказвае Кастусь, — жонка з хаты выгнала.

— А пры чым тут пляшкі?

— Дык яна сказала: забяры свае рэчы і ідзі, куды хочаш.

### НЕ МОГ ВЕДАЦЬ

— Як гэта можа быць, Іван, што дзіця ў вас нарадзілася перад вяселлем?

— А адкуль яно магло ведаць, калі ў нас з Маняй вяселле?

### НЯМА СПРАВЫ

— Прыкра мне, — кажа наведвальнік „Рамантыкі“ афіцыянту, расплачваючыся па рахунку, — але нічога ў мяне не засталося для вас на чаявыя.

— Хвілінку, яшчэ раз праверу рахунак!



Хадзіў заўсёды на дыбачках: баяўся разбудзіць уласнае сумленне.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У вядомага парыжскага фабрыканта сапсаваўся сейф. Ён звярнуўся да знаёмага паліцэйскага камісара з просьбай прыслаць спецыяліста па адмыканні сейфаў. На другі дзень спецыяліст з'явіўся і праз паўгадзіны адамкнуў сейф.

— Як бы я мог вам адудзячыцца? — спытаў фабрыкант.

— Што вам сказаць, мсье... Апошні раз на свабодзе я гэткім чынам зарабіў дзвесце тысяч франкаў...

✵

Два дзядулі ўспамінаюць сваю маладосць.

— Дзеля мяне адна чароўная дзяўчына рызыкавала сваім жыццём, — гаворыць з уздыхам адзін.

— Як гэта?

— Яна сказала, што хутчэй скочыць у Дунай, чым выйдзе за мяне замуж.

✵





З „Весніка Задрыпонії“

### ДЗІВОСНАЕ ПОБАЧ

Здольнасць перадаваць думкі на адлегласць прыпісвае сабе жыхар Ачуцінава А. Зязюлевіч. Варта яму толькі падумаць, напрыклад, у час купання, што могуць адключыць ваду, як тут жа разам з вадою знікне і святло.

### ПЛЁН ПРАГРЭСУ

Калі Сакрату спатрэбілася амаль усё жыццё, каб пераканацца ў тым, што ён нічога не ведае, дык зараз для гэтага дастаткова закончыць сярэднюю школу.



## МІНІВЕРШЫ

### СТАРАННЕ

Станок, машыну або трактар
Заўчасна спісваў ён па акту.
Пакуль за гэткае стараннe
Сам не патрапіў на „спісанне“.

Іван Стадольнік

### ХВАЛЬКО

Хваліўся паржавелы цвік:
„Спыніў нядаўна новы грузавік!“

Мікола Мінчанка

### ЗА НЕРАЎНАВАГУ

Вымову вынеслі прадмагу:
Ён часта траціў раўнавагу.

Андрэй Лешчанка




## КУР'ЁЗЫ

### АБЕД ПЕРАХОДЗІЦЬ У АТАКУ

У Стакгольмскім заапарку здарылася незвычайнае. Выпадак быў настолькі цяжкі, што давялося выклікаць „хуткую дапамогу“. Вялікай цаны жыхарка тэрарыума — трохметровая анаконда — зазнала нападзення з боку ўласнага абеду!



Справа ў тым, што марская свінка, прызначаная анакондзе на абед, зусім страціла галаву ад страшнай перспектывы і вырашыла як найдаражэй прадаць сваё жыццё. Яна так пакусала змяю, што тая цалкам магла б адысці на той свет. Ветэрынару, які ў пару з'явіўся на месца здарэння, давялося налажыць пацыентцы нямала швоў.

### ВІНАВАТА МІЛІЦЫЯ

Настаўніца: — Пятрук! Чаму твой татка не з'явіўся на бацькоўскі сход?

Пятрук: — Ён хацеў з'явіцца, але яго міліцыя не пусціла.




Спачатку было сёмае неба. Потым — Палац шлюбаў.